**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№5(669)**
**31 студзеня 2013 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае




На возеры Белым у Бушыках.

*Фота Ул. Скрабатуна.*

## У 2012 годзе ў кансалідаваны бюджэт Віцебскай вобласці паступіла 7 трлн. 664,3 млрд. рублёў падаткаў пры ўвозе тавараў з краін МС

**У кансалідаваны бюджэт Віцебскай вобласці паступіла 7 трлн. 664,3 млрд. рублёў падатку на дададзены кошт пры ўвозе тавараў з краін Мытнага саюза.**

Як паведамляе прэс-служба Міністэрства па падатках і зборах, падаткі па ўвозе тавараў з Расіі склалі 7 трлн. 655,8 млрд. рублёў і выраслі ў параўнанні з мінулым годам на 29,5%. Аб'ём імпарту тавараў з Расіі склаў 38 трлн. 500,6 млрд. рублёў. Асноўнымі складальнікамі імпарту ў 2012 годзе былі сыравіна для вытворчасці тавараў, камплектуючыя для прамысловага абсталявання, запчасткі для аўтамабіляў, электрапрыборы.

За 2012 год на тэрыторыю Віцебскай вобласці з Казахстана ўвезена тавараў на агульную суму 12 трлн. 947,3 млн. рублёў, што больш у параўнанні з 2011 годам у 2,8 разу. Сума ПДК па ўвезеных таварах склала 2 трлн. 589,4 млн. рублёў. З Казахстана Віцебская вобласць увозіла пшаніцу, лакатканіну, міканіт гнуткі, стужку смаляную, стужку для абароны плат і міжслойнай ізаляцыі.

*Ганна Афоніна, БелаПАН.*








### МНС інфармуе
**на 29.01.2013 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 116;
Гібель людзей – 31, з іх 1 дзіця;
Урон – 531.8 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 6;
Гібель людзей – 2, з іх дзяцей няма;
Урон – 80 800 000 руб.

## Пастаўскі раён

# Калі жыць не хочацца

■ Кастусь Александровіч

**На фоне бясконцых размоў аб панучай у краіне быццам стабільнасці і парадку, новых дасягненнях чамусьці многіх суайчыннікаў гэта не раду**Е. Горш таго, толькі летась у адным Пастаўскім раёне была зарэгістравана рэкордна сумная колькасць самагубстваў – 23 выпадкі. На шчасце, жыцці яшчэ амаль 40 мясцовых жыхароў былі выратаваныя і ім не ўдалося давесці да канца свае горкія задумы. Аднак праблема, безумоўна, існуе, аб чым засведчыла праведзенае ў райвыканкаме пасяджэнне "круглага стала". Як адзначалася на ім, жахліва, што большасць самазабойцаў (15 чалавек) з'яўляліся працаздольнымі людзьмі і сельскі раён разам з Оршай выйшаў у лідары на Віцебшчыне па колькасці самазабойцаў. Трывожыць, што зараз негатыўныя з'явы энергічна сталі распаўсюджвацца ў сельскай мясцовасці. Калі ў райцэнтры з насельніцтвам 20 тысяч чалавек за год рашыліся на адчайны крок і звялі рахункі з жыццём 5 пастаўчан, то ў невялікім Дунілавіцкім сельсавеце пахавалі траіх землякоў-самазабойцаў. Святары мясцовых храмаў непакоіліся, чаму толькі ў адным Варапаеўскім пасавеце адбыліся 4 самазабойствы. Аднак гатовых рэцэптаў, як вырашыць праблемы суіцыду, знайсці адразу цяжка, бо, відавочна, што ў грамадстве накапіліся не толькі маральныя, але і эканамічныя цяжкасці. Пакуль жа ўдзельнікі "круглага стала" вырашылі і надалей не замоўчваць праблему, часцей сустракацца з людзьмі, арганізаваць кругласутачную службу ананімнай псіхалагічнай дапамогі ў цяжкіх жыццёвых сітуацыях.

## Ушацкі раён

# Амаль абязлюдзелі вёскі

■ Станіслаў Раманчук

**Хоць і зусім нямнога жыве на вёсцы сапраўдных гаспадароў, але, на шчасце, яны яшчэ застаюцца.**

Да ліку такіх адносіцца і былы афіцэр, маёр запасу Юрый Нічыпор, які ва Ушацкім раёне адкрыў 9 гадоў назад сваю сялянска-фермерскую гаспадарку. Ён мог бы спакойна пасля службы ў арміі інжынерам-радыёэлектроншчыкам жыць у Мінску, але прадаў сталічную кватэру і перабраўся ў глыбінку, заняўся сур'ёзна садаводствам. Цяпер ён мае 100 гектараў зямлі, перададзенай дзяржавай ў пажыццёвае спадчыннае валоданне. На гэтых плошчах вырас яго сад з 2 тысяч дрэў, а таксама паўстаў пітомнік па вырошчванні саджанцаў элітнай чорнай смародзіны і плантацыі іншых ягад. Аднак хоць вядзе сваю справу талкова і плённа, вырошчвае штогод дзясяткі тон ягад, пастаянна знаходзіцца на мяжы выжывання. Спачатку некалькі гадоў назад са спазненнем далі ў арэнду камбайн для ўборкі ягад. Летась доўга не маглі на мытні аформіць куплены ім польскі камбайн, таму асыпалася тон 30 ягад чорнай смародзіны і шмат ураджаю загубіў град. Шэраг спажыўцоў не могуць разлічыцца за адгружаныя вітаміны, пасадачны матэрыял. А самая вялікая праблема, што край вельмі абязлюдзеў. У раёне з мноствам прыгожых мясцін да сезонных работ па ўборцы ягад няма каго запрасіць. Большасць мясцовых жыхароў з'ехалі на заробкі ў асноўным у Расію. Здаралася, што і ў райцэнтры не мог знайсці Юрый жадаючых дапамагчы ўбраць вырашчаны ўраджай. Цяпер ёсць планы запрашаць на сезонную працу землякоў з роднай Брэстчыны, але няма дзе размясціць зборшчыкаў ягад.

## Докшыцкі раён

# Новае жыццё храма

■ Чэслаў Якубовіч

**Пасля дзесяцігоддзяў ваяўнічага атэізму толькі цяпер на нашай зямлі пачынаюць адраджацца спрадвечныя хрысціянскія традыцыі.**

На Віцебшчыне з пачатку новага стагоддзя быў асвечаны яшчэ 21 каталіцкі касцёл і зараз будуецца 13 праваслаўных цэркваў замест раней разбураных. А вось у вёсцы Валкалаты, што ў Докшыцкім раёне, мясцовы касцёл св. Яна Хрысціцеля ніколі з моманту адкрыцця не зачыняўся, хоць нямала было спроб камунякаў ліквідаваць гэты "очаг мракобесия". Аднак тады людзі днём і ноччу дзяжурылі ля варот храма і не пускалі туды ворагаў веры. Цяпер у дарагім сэрцам вернікаў святым месцы наспела пара правесці рамонт храма. Раней мясцовыя прыхаджане сабралі сродкі і абнавілі свой мілагучны арган, пачалі будаўніцтва службовага памяшкання – плябаніі. Як і раней, матэрыяльную дапамогу землякам-вернікам у духоўных справах аказваюць мясцовыя гаспадаркі і сельсавет. Вось і на гэты раз кіраўніцтва сельгаспрадпрыемства "Агра-Сітцы" выдзеліла жыллё для пражывання новага святара-пробашча храма Андрэя і яго памочніка манаха. У сваю чаргу значэнне храма для духоўнага выхавання землякоў бясспрэчнае: на тэрыторыі сельсавета меней злачынстваў і за апошнія 20 гадоў ніводзін падлетак адсюль не быў узяты на ўлік у інспекцыі па справах непаўналетніх.

# Аб самым надзённым

## НА ПОЎНУЮ МАДЭРНІЗАЦЫЮ ЗНОШАНАЙ ПРАМЫСЛОВАСЦІ Ў БЕЛАРУСІ ПРОСТА НЕ ХОПІЦЬ ФІНАНСАВЫХ РЭСУРСАЎ



■ Аляксандр Цішкевіч

**На снежаньскай урадавай нарадзе прэм'ер-міністр далажыў, што на праграму мадэрнізацыі ў 2013 годзе прадугледзілі з дзяржбюджэту і розных інвестыцыйных фондаў каля 16 трыльёнаў рублёў ( каля 1,9 мільярда долараў ). Таму сёлета такія грошы пойдуць найперш толькі на інавацыйныя і ўнікальныя праекты, якія хутка дадуць аддачу і павысяць канкурэнтназдольнасць беларускай прамысловасці. Вельмі многім вытворцам у такой сітуацыі прыйдзецца разлічваць у першую чаргу толькі на саміх сябе, свае сувязі, каб абнаўляць тэхналогіі і выраблядь прадукцыю на купленым навейшым абсталяванні.**

Усе важныя справы ў паўсядзённым жыцці павінны рабіцца своечасова, без мітусні і спешкі – гэта, спадзяюся, павінна быць зразумела кожнаму чалавеку. Аднак што мы бачым вакол нас. Яшчэ летась, нагадаем, кіраўніцтва краіны паставіла задачу да канца 2012 года правесці рэканструкцыю па адной малочнатаварнай ферме ў кожным беларускім калгасе. Каб затрымліваліся кадры ў глыбінцы, моладзь не думала пра міграцыю на працу ў горад.

З абнаўленнем каля 1500 кароўнікаў нібыта справіліся, а ўзводзіць сучасныя малочнадаільныя залы прадоўжым і надалей, калі гаспадаркі і мясцовыя бюджэты знойдуць пры падтрымцы банкаў для гэтага патрэбныя сродкі ( на адну такую нармальную рэканструкцыю кароўніка да сучасных патрабаванняў ідзе да 15 млрд. рублёў). Аднак сёлета перад беларусамі паставілі яшчэ больш складаную задачу: у самыя сціслыя тэрміны правесці мадэрнізацыю, скажам шчыра, даволі зношаных айчынных заводаў і фабрык. Як не паспяхова вырашыць, калі год пачаўся з непрыемных сюрпрызаў і чарговага росту цэн і тарыфаў.

Ды і ў лютым пенсіянеры не дачакаюцца павышэння працоўных пенсій, да чаго прывыклі летась. Больш таго, у гэтым і наступным годзе для нашай краны прыпадае пік выплат ( па 3 млрд. долараў) па знешніх даўгах. Аднак пры гэтым кіраўнік дзяржавы запатрабаваў ад кіраўніка ўрада М. Мясніковіча не зніжаць тэмпаў маштабнай мадэрнізацыі вытворчага сектара. Дарэчы, размовы аб гэтым вядуцца яшчэ з восені мінулага года і , напэўна, нават на месцах яшчэ да Новага года на стале кожнага дырэктара з'явіўся, як патрабавалі, план мадэрнізацыі ккрэтнага завода з выхадам на выпуск канкурэнтназдольнай прадукцыі.

Спецыялісты падлічылі, што на вырашэнне зацверджанай Праграмы развіцця прамысловага комплексу Беларусі да 2020 года патрэбны 83-90 млрд. долараў – вельмі шмат сродкаў. Між тым, больш трэці ад гэтай сумы, амаль 37 % павінны скласці сродкі самых мадэрнізіруемых прадпрыемстваў. Планавалася, што яшчэ 35 % атрымаем за кошт прыцягнення замежных інвестыцый. Найбольш беларускія ўлады разлічвалі, што гэта будуць расійскія грошы. А што ў рэальнасці маем зараз?

На снежаньскай урадавай нарадзе прэм'ер-міністр далажыў, што на праграму мадэрнізацыі ў 2013 годзе прадугледзілі з дзяржбюджэту і розных інвестыцыйных фондаў каля 16 трлн. рублёў ( каля 1,9 млрд. USD ). Таму сёлета такія грошы пойдуць толькі найперш толькі на інавацыйныя і ўнікальныя праекты, якія хутка дадуць аддачу і павысяць канкурэнтназдольнасць беларускай прамысловасці. Вельмі многім вытворцам у такой сітуацыі прыйдзецца разлічваць у першую чаргу толькі на саміх сябе, свае сувязі, каб абнаўляць тэхналогіі і выраблядь прадукцыю на купленым навейшым абсталяванні.

Прыгэтым апошнія падзеі не дадаюць аптымізму, што мы справімся з пастаўленымі ўсімі маштабнымі задачамі. Папершае, савет дырэктараў МВФ болей грошай нам пакуль не дасць. Адзін з асноўных дабытчыкаў валюты, аб'яднанне "Беларуськалій" сёлета страціць шмат даходаў з-за падзення сусветных цэн на калійныя ўгнаенні, калі кітайцы дамовіліся аб гэтым з канадцамі. Ну і нарэшце інвестар з Турцыі вырашыў адмовіцца ад фінансавання работ па вырганні да жыцця паўмёртвага сталічнага "Камволя". Вось чаму не ад добрага жыцця вырашылі пачаць скарачэнне чыноўнікаў дзяржапарату, толькі адразу не сталі гэта рабіць, а расцягнулі гэты працэс на паўгода.

А паэтапныя маштабныя скарачэнні пачынаюцца з аб'яднання пяці буйнейшых дзяржаўных газет у адзін холдынг пад крылом прэзідэнцкай "Советской Белоруссии". Увогуле цяжкасцей усім нам сёлета будзе хапаць, на нармальнае жыццё прыйдзецца працаваць вельмі напружана ад вярхоў да нізоў ды і фінансавая сітуацыя ў Беларусі зараз горшая, чым яна была год назад. А сама дзяржава лічыць, што трэба адыходзіць ад патэрналізму і апекі нашых людзей. Не хочацца думаць, што з мадэрнізацыяй мы спазніліся, але відавочна, што гэту задачу патрэбна было б вырашаць яшчэ раней, бо мы апынуліся ў ролі даганяючых ужо нават нашых саюзнікаў – расіян і казахаў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 31.01.13 | | | | Пятніца 01.02.12 | | | | Субота02.02.13 | | | | Нядзеля 03.02.11 | | | | Пнд 04.02.13 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -3 | -2 | 0 | -1 | -3 | -2 | 0 | -2 | -6 | -4 | 0 | -2 | -4 | -3 | -1 | -3 | -9 | -7 | -2 |
| Ціск | 730 | 733 | 733 | 731 | 730 | 730 | 732 | 734 | 734 | 734 | 735 | 734 | 732 | 731 | 732 | 734 | 737 | 738 | 739 |
| Вільготнасць | 96 | 92 | 89 | 94 | 93 | 93 | 90 | 98 | 99 | 97 | 87 | 98 | 99 | 97 | 94 | 97 | 90 | 87 | 79 |
| Вецер м/сек | 8 Пд-З | 6 З | 6 Пд-З | 7 Пд-З | 9 Пд-З | 6 Пд-З | 5 З | 3 З | 2 Пд-З | 4 Пд | 5 Пд | 7 Пд-У | 6 Пд-У | 5 Пд | 2 Пд | 7 Пн-З | 6 Пн-З | 3 З | 3 Пд-З |

## Дзень за днём

**На працягу паўгода ў РБ пройдзе скарачэнне дзяржапарату (мінімум 13 тысяч дзяржслужачых) у сярэднім на 25 %. У сусветным рэйтынгу эканамічных свабод Беларусь заняла толькі 154-е месца і 97-е – па хуткасці Інтэрнэту. На мадэрнізацыю больш тысячы беларускіх асноўных дзяржпрадпрыемстваў сродкаў не хапае. За першы тыдзень года ў Беларусі інфляцыя склала ўжо 1,5 %, а ў ЕС летась цэны выраслі толькі на 2,2 %. Злосных неплацельшчыкаў па новаму Жыллёваму кодэксу РБ сёлета вясной пачнуць высяляць у "іншыя населеныя пункты". Ужо сёлета могуць пачаць і канфіскоўваць аўтамабілі ў нецвярозых беларускіх вадзіцеляў. Са жніўня ў краіне пачнецца паэтапнае адключэнне аналагавага тэлевяшчання.**

# Важнейшыя навіны свету

**Францыя.** З санкцыі ААН французскія войскі пачалі баявыя дзеянні на баку ўрада Малі супраць баевікоў-ісламістаў, якія падтрымліваюць тэрарыстычны рух "Аль-Кайеда".

**Венесуэла.** У краіне чакаюць узмацнення барацьбы за ўладу на фоне няпростага змагання Уга Чавеса са смяртэльнай хваробай, дэфіцыт дзяржбюджэту дасягнуў ужо 20 % ад ВУП.

**Бельгія.** Еўракамісар ЕС па добрасуседстве Штэфан Фюле паведаміў, што Еўрасаюз запрасіў Беларусь пачаць перамовы аб аблягчэнні атрымання шэнгенскіх віз для беларусаў.

**Сірыя.** Байцы ўзброенай сірыйскай апазіцыі захапілі буйнейшую авіябазу "Тафтаназ", 20 верталётаў, склады са зброяй, за гібель больш 60 тысяч чалавек адкажа рэжым Б. Асада.

**Германія.** Глава Цэнтрабанка ЕС Марыо Драгі заявіў, што да канца года эканоміка еўразоны пакажа ажыўленне і невялікі рост, а гадавая інфляцыя апусціцца ніжэй 2 %.

**Расія.** Новы міністр абароны РФ С. Шайгу загадаў, каб да канца года расійскія ваенныя перасталі несці службу ў ботах з анучамі, на новы абутак выдзеляць неабходныя сродкі.

**Англія.** Сёлета вясной армія пачне ў Аўстраліі лётныя выпрабаванні свайго навейшага беспілотнага самалёта-разведчыка 5-га пакалення для межкантынентальных палётаў.

**ЗША.** У большасці штатаў краіны сур'ёзна ўскладнілася абстаноўка ў сувязі з ростам эпідэміі грыпу і смерцю соцень пацыентаў, у штаце Нью-Йорк увялі асаблівы рэжым НС.

**Куба.** Упершыню з 1961 года кубінцам дазволілі свабодна выязджаць за мяжу без дазволу ўлад, адсюль уцяклі (найбольш у Злучаныя Штаты ) ужо больш за 2 мільёны чалавек з 11,2 мільёна насельніцтва.

**Мексіка.** У сталіцы краіны Мехіка паліцыя ўзмацніла аблавы супраць бадзяжных сабак, іх каля 3 мільёнаў, азвярэўшыя галодныя звяры загрызлі насмерць 3 дарослых і 1 дзіця.

**Францыя.** Толькі ў сталіцы краіны больш 350 тысяч парыжан выступілі маршам супраць аднаполых шлюбаў і патрабуюць правядзення рэферэндума па гэтым пытанні.

**Швецыя.** Краіна прыняла за год рэкордную колькасць імігрантаў ( іх ужо 1,5 млн), больш 100 тысяч чалавек, найбольш з Фінляндыі, Польшчы, былой Югаславіі, з Ірака і Ірана.

**Израіль.** Наймагутнейшыя з 1992 года халады і снегапады з вышынёй снегу 20 сантыметраў накрылі краіну, рэзка пахаладала і выпаў снег у Турцыі, Сірыі, Ліване, Іарданіі, што з'яўляецца рэдкасцю для гэтых мясцін.

**Балівія.** Кіраўніцтва краіны дабілася ад ААН захавання для балівійцаў спрадвечнага права пераж оўваць, як стагоддзямі продкі, лісця расліннных наркотыкаў – кокі яшчэ на 25 гадоў.

**Англія.** У брытанскім выдавецтве Glaqoslav Publications на англійскай мове выпусцілі аповесць беларускага класіка Уладзіміра Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха".

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Салігорск.** Непрыемным сюрпрызам не толькі для "Беларуськалія" стала падзенне цэн на калій на сусветных рынках, што істотна знізіць і паступленні валюты для патрэб Беларусі.

**Мінск.** Супрацоўнікаў адразу 4 дзяржаўных газет папярэдзілі аб закрыцці іх выданняў і далучэнні да новага грамадска-палітычнага холдынга на базе "Советской Белоруссии".

**Гродна.** Упершыню ў Беларусі на мясцовым прадпрыемстве "Малочны Свет" пачалі выпуск унікальных зялёных сыроў "Базірон" з пахам часнаку, яны спеюць 60 сутак.

**Маладзечна.** У набытым на аўкцыёне незавершаным будынку ААТ "Амкадор" адкрые праз год свой завод па выпуску дарожнабудаўнічай тэхнікі на 500 працоўных месцаў.

**Катлоўка.** Пры спробе перапраўіць у Беларусь амаль 6,5 тысяч цыгарэт літоўскія мытнікі затрымалі польскіх кантрабандыстаў, яны пераадзеліся "ксяндзамі", каб прайсці догляд.

**Петрыкаў.** Другі па ліку на Гомельшчыне за два тыдні сельскі Дом культуры згарэў ноччу ў вёсцы Аголіцы разам з мэбляй і кнігамі бібліятэкі, ён ацяпляўся печкай.

**Мінск.** У мінулым 2012 годзе, як паведаміла прэс-служба Нацбанка РБ, насельніцтва Беларусі купіла ў абменных пунктах на 700 млн. USD болей валюты, чым прадала.

**Бяроза.** Суд аштрафаваў на 3 млн. рублёў 89-гадовага пенсіянера, інваліда 2-й групы, які ад адчаю, што адмовілі ад дома прэстарэлых, падпаліў старшыню сельсавета і самога сябе.

**Гомель.** Некалькіх жыхароў горада, якія купілі вельмі дарагія кватэры і машыны, падатковая інспекцыя прымусіла даплаціць яшчэ 338 млн. рублёў падатковага падатку.

**Астравец.** Са школ райцэнтра пачалі звальняцца настаўнікі і працаўладкоўвацца будаўнікамі будучай АЭС, на станцыі ўжо працуе 1 тысяча чалавек і болей там заробкі.

**Барысаў.** Суд пакараў 15 суткамі арышту 21-гадовага юнака, які на падпітку, каб "праслаўіцца", раздзеўся дагала і пачаў голы танцаваць на цэнтральнай плошчы горада.

**Мазыр.** У горадзе пачалі засяляць першы ў вобласці арэндны дом на 80 кватэр, заявы жыць у такіх кватэрах падалі 327 мазыран, кошт 1 м2 жылля 8 тысяч плюс квартплата.

**Камянец.** За атрыманне неаднаразова хабару ад вадзіцеляў у суме больш 50 млн. рублёў 5 гадоў турмы атрымаў былы супрацоўнік ДАІ мясцовага РАУС, старшы лейтэнант міліцыі.

**Мінск.** З гэтага года ўся прадукцыя "Беларусьфільма" будзе выходзіць у пракат толькі ў лічбавых фарматах на дысках, аднак адмовілася экранізаваць "Каласы пад сярпом тваім".

**Быхаў.** Улады пачалі збор дабрачынных сродкаў на рэстаўрацыю да Дня беларускага пісьменства мясцовага замка 17 стагоддзя, адзінага горада-крэпасці, што захаваўся ў РБ.

# З 1 лютага набываць білеты праз інтэрнэт стане значна прасцей



■ **Аксана Рудовіч**

**1 лютага Беларуская чыгунка ўводзіць новыя правілы афармлення білетаў праз Інтэрнэт. Згодна з імі, для пасадкі на цягнік дастаткова будзе паказаць праваднiку 14-значны код, які даецца пры электроннай рэгістрацыі білета на сайце.**

Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміла Галіна Рабушка, вядучая інжынерка пасажырскай службы. «На сёння пры пасадцы пасажыраў з электроннай рэгістрацыяй дзейнічае часовы парадак, які быў распрацаваны для вопытнай эксплуатацыі дадзенай паслугі. Быў праведзены аналіз усіх няручнасцей, усіх непаразуменняў, якія ўзнікалі», — сказала Галіна Рабушка.

Найчасцей праблемы ўзнікалі ад таго, што пасажыры няўважліва чыталі правілы і памыляліся пры афармленні білетаў ці забывалі дакумент (пашпарт), на які быў зарэгістраваны білет

«Ставяць проста птушачку і ў выніку афармляюць праязныя дакументы на сваё імя, а едзе сябар, дачка, сын. Ці афармлялі тры праязныя дакументы на сваё імя, а на пасадку прыходзяць са знаёмымі».

Іншыя ўвогуле лічылі, што калі ўжо аплацілі праз Інтэрнэт, значыць, аўтаматам прайшлі электронную рэгістрацыю. Але гэта не так. Калі пасажыр не прайшоў электронную рэгістрацыю, значыць, абавязаны аформіць праезны дакумент у касе і толькі тады ісці на пасадку.

Па новых правілах дастаткова будзе паказаць праваднiку 14-значны код, які даецца пры рэгістрацыі.

«Калі пашпарт забыўся, але код ёсць, то пасажыра пасадзяць у цягнік», — падкрэсліла Рабушка. А таксама, што важна, гэты код вы можаце перадаць каму заўгодна. Інакш кажучы, з 1 лютага можна заказаць білет і іншаму чалавеку.

А вось магчымасці запаўняць электронную форму па-беларуску пакуль што не будзе. Пры гэтым ужо летам плануецца запусціць беларускую версію сайта Чыгункі, паведаміў намеснік начальніка Цэнтра навукова-тэхнічнай інфармацыі Аляксандр Казачок:

Але што да запаўнення элекронных формаў — не ўсё так проста. Справа ў тым, што сайт — гэта партальнае стварэнне. Яно складаецца з непасрэдна карпаратыўнага сайта, які ўключае ў сябе сайты аддзяленняў і некаторых сэрвісаў. Дык вось, шэраг сэрвісаў не ўваходзяць у структуру сайта.

Дарэчы, у штаце Беларускай чыгункі ёсць супрацоўніца з філалагічнай адукацыяй па беларускай мове. Яна і працуе над гэтым праектам. А па некаторых пытаннях чыгунка кансультуецца з Акадэміяй навук.

Летась тэхнічна падкаваныя пасажыры набылі больш за 120 тысяч білетаў праз анлайн-сістэму продажу. У тым ліку амаль пятая частка з іх — з выкарыстаннем паслугі электроннай рэгістрацыі. Верагодна, што пасля спрашчэння правіл колькасць ахвотных скарыстацца такой паслугай рэзка ўзрасце.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Пасля перагляду спісаў з чаргі на будаўніцтва жылля ў абласным цэнтры знялі больш 2 тысяч чалавек, аднак і застаўшымся ў ёй 32 тысячам мала што "свеціць" сёлета.

**Орша.** Услед за Полацкам і горад Орша аб'ядноўваецца са сваім раёнам у адну адзінку базавага адміністрацыйнатэрытарыяльнага ўзроўню кіравання па ўказу Прэзідэнта РБ.

**Бешанковічы.** Міліцыя затрымала 22-гадовую мярзотніцу, якая пасля сямейнай сваркі ў родным доме ў вёсцы Фралковічы забіла да смерці сваю 43-гадовую маці.

**Глыбокае.** Болей 130 цялят і 5 коней прыйшлося эвакуіраваць ноччу з-за пажару на ферме ў вёсцы Узрэчча, агонь пашкодзіў маёмасць, але ніхто з жывёл і людзей не пацярпеў.

**Полацк.** Былы кіраўнік горада У. Тачыла напісаў прашэнне аб памілаванні на імя А. Лукашэнкі яшчэ да пачатку суда за махінацыі з выдзяленнем зямельных участкаў.

**Віцебск.** З абласнога бюджэту выдзелілі 16 млрд. рублёў на ўзвядзенне да канца года ў мікрараёне Білёва-3 першага на Віцебшчыне арэнднага дома на 120 кватэр.

**Шуміліна.** Панчошнатрыкатажная фабрыка "Кім" услед за адкрытым сваім філіялам у Обалі пачала стварыць яшчэ адзін такі ў райцэнтры, дзе працу атрымаюць 20 швачак.

**Наваполацк.** Суд пакараў жыхара горада 2 гадамі абмежавання волі з адтэрміноўкай прыгавору за захоўванне дома 10 патронаў для аўтамата, прывезеных са службы ў арміі.

**Віцебск.** Позна вечарам у адзін з гатэляў горада засялілася сям'я з Масквы, якая вярталася дамоў з Еўропы, раніцай бацькі ўбачылі, што малодшае іх гадавалае дзіця мёртвае.

**Полацк.** Супраць двух расіян і беларуса распачалі крымінальную справу за арганізацыю канала нелегальнай міграцыі ў Еўрасаюз, куды яны пераправлялі 8 чалавек з Азіі.

**Талачын.** Беспрацоўны 54-гадовы пасёлка Кохáнава атрымаў 25 гадоў пазбаўлення волі за падвойнае забойства летась двух жанчын-сабутэльніц падчас спрэчкі на падпітку.

**Паставы.** Работнік "Пасткамня", маёр запасу Павел Гук пасярод зімы злавіў на рацэ вудачкай рэдкую і хітрую рыбу – язя вагой амаль 2 кілаграмы і даўжынёй каля паўметра.

**Віцебск.** На пасадзе галоўнага трэнера нацыянальнай мужчынскай зборнай Беларусі справаздачная канферэнцыя федэрацыі баскетбола зацвердзіла віцяблянiна Р. Байдакова.

**Глыбокае.** Пад пагрозай закрыцця апынулася і малакамплетная школа ў вядомай на ўсю Беларусь вёсцы Мосар, у ёй вучацца 20 вучняў, менее прыхаджан храма св. Ганны.

**Віцебск.** Аспірантка дзяржуніверсітэта імя П. М. Машэрава Іна Лісава акрамя грашовага прыза 12 тысяч $ выйграла ў тэлегульні "Што? Дзе? Калі?" паездку на Паўночны полюс.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

**Глыбоччына славіцца сваімі вішнямі! Улетку гэтага года ў нашым горадзе адбудзецца Вішнёвы Фэст. Глыбокае становіцца вішнёвай сталіцай Беларусі. Плануецца праводзіць гэты фэст штогадова. Чаму ж так добра родзяць вішні ў нашым краі? Зразумела, аўтар гэтага матэрыялу не з'яўляецца адмыслоўцам у гэтай галіне, таму агучвае стэрэатыпнае меркаванне многіх людзей – гэтаму спрыяюць нашыя сугліністыя глебы. Вось і гады чатыры таму, набываючы саджанец чарэшні на рынку, садавод, які прадаваў, параіў мне: перад пасадкай дрэва, абавязкова, акуніце карані ў «раствор» гліны, абы яна, як мага больш ахутала карані. І, ведаеце, гэта дало плён! Добра родзіць мая чарэшня. Як цвердзяць нашыя старажылы, да закладкі добрагатунковых вішнёвых садоў на Глыбоччыне ў 1930-яя гг спрычыніўся павятовы аграном Баляслаў Нікадзімавіч Лапыр.**

**Уладзімір Скрабатун**

# Прадвеснік Вішнёвага Фэсту ў Глыбокім – Баляслаў Лапыр, аграном і патрыёт



**Сядзіба Лапыроў, 1930-ыя гг. Не захавалася. Малыя лістоўніцы, якія бачныя перад домам у правым куце здымка, – сёння вялікія ўжо дрэвы.** *Здымак з сямейнага альбома Уладзіслава Страшэвіча, г. Гданьск.*

**Даведка**. Сядзіба Лапыроў знаходзілася адразу па выездзе з Глыбокага, калі ехаць па дарозе на Харашкі і Крулеўшчыну – на правы бок. Амаль насупраць новых гарадскіх могілак. Там застаўся вялікі дуб³, старыя яблыні, лістоўніцы....



**Баляслаў Лапыр.**
*Здымак з сямейнага альбома Уладзіслава Страшэвіча, г. Гданьск.*

## Аграном – легенда!

Жыхар Глыбокага Пётр Альбінавіч Вярцінскі распавёў калісьці аўтару гэтых радкоў ледзьве не легендарную гісторыю. Аднойчы павятовы аграном Баляслаў Лапыр наведаўся ў вёску Старыя Шарабаі. І быў вельмі ўражаны, што ў сялянаў пустуе шмат зямлі. Пытае:

*– Чаму нічога не сеіце?*

*– Ай, паночку, на гэтай зямлі нават трава не расце!*– кажуць тубыльцы.

Аграном Лапыр, калі выпраўляўся на аб'езд ваколіцаў Глыбокага, заўсёды браў з сабой чайную лыжку і бутэльку пітной вады. Так было і на гэты раз. Уважліва агледзеўшы сялянскія палеткі, ён зачэрпнуў лыжкай тутэйшую глебу, паклаў яе ў рот, «пасмакаваў», сплюнуў, прамыў рот вадой, ды й кажа:

*– Пасадзіце ў гэты год буракі, а наступным годам – цыбулю, толькі ўгнаенне не кладзіце, а дадайце пячной сажы...*

Даў ім адмысловы плуг узарваць дзірван. Увосень Баляслаў Лапыр ізноў прыехаў у Старыя Шарабаі. Сяляне хваляць ураджай, дзякуюць аграному:

*– Паночку, можа грошы возьмеце за параду?*

*– Не! Мне нічога ад вас не трэба*, – кажа. – *Вазьму толькі чатыры буракі.*

Паклаў іх у люльку матацыкла і паехаў. Наступным годам сяляне хвалілі добры ўраджай цыбулі. Кажуць, што з таго часу шарабайцы надта вялікія адмыслоўцы ў вырошчванні цыбулі, як сапелінцы ў капусце. Глыбоцкія сяляне лічылі за вялікі гонар дастаць у агранома Лапыра добрага гатунку зерня на насенне. Яны яго так і звалі «заводнае зерне ад Лапыра».

## Руплівы сейбіт беларушчыны

Некаторыя інфармацыйныя агенствы (БелТА, напрыклад) з нагоды абвяшчэння Глыбокага вішнёвай сталіцай Беларусі, паспяшаліся выдаць Баляслава Лапыра за мясцовага памешчыка. Не! Баляслаў Лапыр быў сынам беларускага селяніна.

Ніна Аляксандраўна Абрампальская (у дзявоцтве Ліля), колішняя выкладчыца Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэту, тады была зусім юнай, сябравала з дзецьмі Баляслава Лапыра, напісала невялікія ўспаміны пра легендарнага агранома, яны змешчаныя і ў кнізе «Памяць. Глыбоцкі раён»:

*«Вось, пабывала на сваёй радзіме, на Глыбоччыне, сустрэлася там з сябрамі дзяцінства і маладосці, успомнілі мы свайго земляка, цудоўнага чалавека, які пакінуў аб сабе добрую памяць, і вырашыла расказаць пра яго. Гэта – аграном Баляслаў Лапыр.*

*Атрымаўшы адукацыю агранома, што для простага беларуса мела вялікі гонар, быў прызначаны павятовым аграномам. На сваім хутары ён вёў доследную работу, на што ішла большая частка заробку. А рабіў ён гэта з мэтай навучыць сялянаў з наваколля па-навуковаму весці гаспадарку. Але не толькі гэтым займаўся пан Баляслаў. Ён быў сапраўдным барацьбітом за родную беларускую культуру, за права кожнага быць беларусам, размаўляць на роднай мове, пець песні, чытаць кнігі. Усё гэта было ў панскай Польшчы ў загоне. Аграном Лапыр арганізаваў з навакольных сялянаў драматычны гурток. Як любілі мы глядзець спектаклі на роднай мове! Ад пана Баляслава мы ўпершыню пачулі вершы Багушэвіча, Купалы, Коласаўскую "Новую зямлю". Зімовымі вечарамі, на святы былі "спеўкі". Як прыгожа гучалі родныя мелодыі, якімі прыгожымі запомніліся мне выканаўцы! Усё гэта вельмі не падабалася польскім уладам, і толькі высокі прафесіяналізм агранома і самаадданая праца давала магчымасць Лапыру застацца на пасадзе.*

*З вялікай павагай адносіўся пан Баляслаў да людзей другой нацыянальнасці. Дарэчы, жонка Лапыра была полька. З ёй муж і дзеці размаўлялі па-польску, але пані Стэфанія вельмі хутка авалодала беларускай мовай і размаўляла з сялянамі па-беларуску, удзельнічала ў беларускіх спектаклях, спявала беларускія песні.*

*У Лапыра мы бралі беларускія кніжкі, беларускі каляндар. Гэта было небяспечна ў той час, але гэта не спыняла пана Баляслава. Ён, як руплівы сейбіт, сеяў беларускае слова сярод сялянаў. А тое, што ў Глыбоцкім касцёле набажэнства вялося на беларускай мове, таксама заслуга Лапыра. Гэта было ўжо ў час вайны».*

## Ён рабіў тут Беларусь!

Мая колішняя суседка спадарыня Вінцэнта, у сярэдзіне 1990-х гг, калі аўтар збіраў успаміны старажылаў, ахарактарызавала Баляслава Лапыра вельмі лаканічна, але досыць выразна: *«Ён рабіў тут Беларусь!»*

У Гданьску жыве Уладзіслаў Страшэвіч¹, сын Баляслава Лапыра, які ў сярэдзіне 1990-х гг, калі аўтар быў двойчы ў гэтым горадзе, прадставіў уласнаручна напісаныя біяграфічныя звесткі пра свайго бацьку:

*«Баляслаў Лапыр нарадзіўся 5 траўня 1895 года ў Пецярбургу ад бацькі Нікадзіма і маці Гелены, з дому Індрунас. Нікадзім паходзіў з вёскі Рубеж Браслаўскага павету.*

*Баляслаў хадзіў у пачатковую школу ў Браславе. Адрозніваўся вялікімі здольнасцямі так, што ім зацікавіўся каталіцкі біскуп, складаючы грошы на яго навучанне. Над ложкам Баляслава вісеў партрэт таго біскупа². Сярэднюю школу Баляслаў Лапыр скончыў у Коўне (1909 г.?), потым атрымаў адукацыю агранома ў Пецярбургу (1916 г.?) У 1926 годзе ажаніўся са Стэфаніяй Страшэвіч. Маладая сям'я, хіба ў 1926 годзе, набыла 11 гектараў зямлі ў Глыбокім.*

*У 1932 годзе нарадзіўся сын Уладыслаў, потым дочкі Янка, Гэля і Марынка.*

*– У нашым доме было прынятае двухмоўе,– згадвае спадар Уладыслаў. З бацькам размаўлялі па–беларуску, з маці – па-польску. Дзеці між сабой – па-беларуску. Бацька з маці па-польску. Мяне з сёстрамі бацька выхоўваў свядомымі беларусамі.*

*Мой бацька перад вайной адпрацаваў 15 гадоў павятовым аграномам. У сваім жыцці ён на першае месца ставіў*



**Баляслаў Лапыр (сядзіць у цэнтры) сярод беларускіх вясковых жанчын**. *Здымак з сямейнага альбома Уладзіслава Страшэвіча, г. Гданьск.*

Праўдападобна, гэта і ёсць адзін з гурткоў «вясковых гаспадынь», арганізаваны Баляславам Лапыром, з якімі ён праводзіў лекцыі, а пасля заняткаў арганізоўваў гурткі спеваў і танцаў беларускага фальклору.

**Тлумачэнні:**

¹ З-за небяспекі рэпрэсіяў з боку савецкіх уладаў за прабеларускую дзейнасць Баляслава Лапыра, абы бесперашкодна пасля вайны выехаць у Польшчу, маці Стэфанія перапісала сваіх дзяцей на сваё дзявочае прозвішча – Страшэвіч.

² Магчыма гэта быў Юрый Баляслаў Матулевіч-Матулайціс, біскуп Віленскі? – У.С.

³ Матэрыял на гэтую тэму у газеце «Вольнае Глыбокае друкуецца ўпершыню. Артыкул пад назовам «Стары дуб на вуліцы Радзівілаўскай» быў апублікаваны ў газеце «Веснік Глыбоччыны» ад 24 снежня 1996 года. (вуліца Радзівілаўская – сённяшняя Кірава).

# Баляслаў Лапыр,

## аграном і патрыёт

*беларускія справы, потым прафесійныя, а на канец – сямейныя,– так казала мая маці. Маці ж займалася гадоўляй высокапародзістых курэй. У 1939 годзе атрымала 1-ую ўзнагароду – залаты медаль на выставе курэй у Вільні.*

*Баляслаў Лапыр імкнуўся да абуджэння ў загуканым беларускім народзе парасткаў свядомасці і нацыянальнай годнасці. Са мной бацька размаўляў, як з дарослым. Казаў: "За царом Беларусь была шэрай правінцыяй Расіі, і за часамі польскімі сталася падобна. У абодвух выпадках не было беларускіх школаў. Расія, роўна як і Польшча, імкнуліся да ўтрымання ў цемры і народавыраджэнні беларусаў…*

**Мой бацька пачуваўся пакліканым да абуджэння нацыянальнай свядомасці сярод беларускага люду.**

*Вельмі дзівіла бацьку, што некаторыя беларусы цураліся матчынай мовы, сцвярджаючы: "Мы гаворым па-просту". Блыталі нацыянальнасць з рэлігіяй. "Мы – палякі, бо молімся па-польску ў касцёле".*

*Мой бацька пачуваўся пакліканым да абуджэння нацыянальнай свядомасці сярод беларускага люду. Мабілізоўваў на гэтую справу іншых свядомых беларусаў: інтэлігенцыю, святароў і вайскоўцаў. Быў у сталым кантакце з іншымі беларускімі патрыётамі, якія думалі так, як і ён: ксяндзамі Стэповічам і Гадлеўскім, беларускім генералам Станіславам Булак-Балаховічам.*

*Баляслаў Лапыр дамагаўся большых правоў для беларускай нацыянальнай меншасці. Ведаю, што мой бацька, які быў радным беларускай меншасці ў акруговым сойміку, удзельнічаў у дэлегацыі да прэзідэнта Рэчы Паспалітай Ігнацыя Масьціцкага ў справе большых свабодаў для беларусаў, а менавіта: адкрыцця беларускіх школаў, часопісаў, і хаця б аднаго казання ў некаторых касцёлах па-беларуску.*

**У Глыбокім ужо дзейнічала нямецкая рэзідэнтура, сярод якіх быў нехта Вітвіцкі, слынны потым, у часе нямецкай акупацыі, гестапаўскі мардэрца.**

*Дэлегацыя тая мела вялікія цяжкасці ў здабыцці аўдыенцыі, але і пасля яе – нічога не атрымалася. Бацька адчуў вялікі ціск з боку ўладаў, яму пагражалі: "Калі будзеш баламуціць беларусаў, то апынешся ў канцэнтрацыйным лагеры ў Бярозе-Картузскай!"*

*Баляслаў Лапыр шмат пісаў для прафесійных выданняў, напрыклад, для "Tygodnika Rolniczego", меў цыкл перадачаў на віленскім радыё.*

*– Будучы малымі хлопцамі, мы часта слухалі бацьку праз слухаўкі радыё на акумулятарах,– згадвае далей спадар Уладзіслаў. Ён быў прапагандыстам асветы сярод беларускага народу. У беларускіх вёсках арганізоўваў агранамічныя і заатэхнічныя курсы. Пры аказіі тых курсаў прапагандаваў беларускую свядомасць і ягосамасць. Арганізоўваць фальклорныя гурткі – было яго хобі.*

*У арганізацыі тых курсаў дапамагаў яго намеснік, паляк Ставінські, вайсковы асаднік. У часе народных святаў ён апранаў мундзір польскага паручыка і жартаваў: "Болек, яшчэ трохі і застану праз цябе павернуты на беларусіна!" Ставінскі вельмі спрыяў беларусам і разумеў бацьку. І гэта – не адзіны выпадак спрыяння палякаў беларусам. Быў яшчэ нехта п. Лядды, намеснік старосты, вельмі ўплывовы чыноўнік, а таксама віцэваявода віленскі.*

*– Каб не яны і не іншыя палякі, то "беларусажэрцы" даўно б з'елі бацьку,– так згадвала мая маці, Стэфанія Страшэвіч.*

*Польскія ўлады высока цанілі прафесійныя здольнасці бацькі, шматкроць прапаноўвалі высокія пасады ў Вільні і Варшаве, «абы толькі не бунтаваў беларусінаў ды перапісаўся на паляка".*

*Аднак, у рэшце рэшт, Баляслава Лапыра, перакананць не ўдалося, і ў 1939 годзе, у 44 гады, ён быў звольнены з працы павятовага агранома і адпраўлены на пенсію. Гэта было перад самым выбухам Другой сусветнай вайны. У Глыбокім ужо дзейнічала нямецкая рэзідэнтура, сярод якіх быў пан Вітвіцкі, слынны потым, у часе нямецкай акупацыі, гестапаўскі мардэрца.*

*У самых чытаемых нямецкіх газетах з'явіліся публікацыі аб дыскрымінацыі нацыянальных меншасцяў у Польшы: немцаў, беларусаў і украінцаў. Як прыклад, быў пададзены факт, што ў Глыбокім, у 44 гады, быў звольнены з працы аграном Баляслаў Лапыр, выбітны спецыяліст, да якога польскія ўлады, паводле прафесіі, не мелі ніякіх прэтэнзіяў, а звольнілі толькі за тое, што ён – беларус.*

*І тут пачалося! Штораз да бацькі прыязджала рознае польскае начальства, абы залагодзіць сітуацыю, уціхамірыць немцаў. Няма ў Польшчы ніякай дыскрымінацыі нацменшасцяў! Абяцалі самыя высокія пасады, хоць і міністра сельскай гаспадаркі Польшчы. Баляслаў Лапыр – "Не! Мне і ў 44 гады на пенсіі – добра! Не хачу жыць на два дамы".*

*У рэшцэ рэшт угаворы польскіх чыноўнікаў здабылі плён. Аднак Баляслаў Лапыр высунуў умовы, што супрацоўніцтва магчымае пры наступных варунках: раз на тыдзень – беларускамоўная перадача на віленскім радыё; выданне беларускіх газет; раз на тыдзень і ў святы – ва ўказаных касцёлах – беларускае набажэнства…*

*Абы немцы спынілі антыпольскую прапаганду – чыноўнікі пагадзіліся, а Баляслаў Лапыр паехаў працаваць старостам, кудысьці пад Вільню».*

Аднак, тое было зусім нядоўга. 17 верасня ў Заходнюю Беларусь увайшла Чырвоная Армія. Новая ўлада Баляслава Лапыра пакуль не чапала.

У часе апошняй вайны сям'я Лапыроў знаходзілася ў Глыбокім, а сам Баляслаў займаўся беларускай нацыянальнай справай. На сёння не вельмі зразумела, якую пасаду пад нямецкай акупацыяй займаў Баляслаў Лапыр. Проста, у нас не хапае звестак. Праўдападобна, як і сцвярджае спадар Уладыслаў, яго бацька займаўся стварэннем беларускіх школаў, беларусізацыяй касцёла і царквы. Калі верыць сп. Вярцінскаму, Лапыр выдаваў у Глыбокім і нейкую газету на беларускай мове.

Не мог ён спакойна назіраць, як паляць беларускія вёскі разам з жыхарамі. Ён завітаў да свайго непасрэднага начальніка немца. Прынамсі, Лапыр бегла валодаў нямецкай мовай. Дайшло да вострага абмену слоў. Немец сказаў штосьці накшталт таго: *"Калі беларусы пачнуць павучаць вышэйшую расу, то адразу патрапяць у лік нацыяў, якія варожа настроены да немцаў"*. Вось тут Баляслаў Лапыр і выгарнуў тое, што думаў пра акупантаў. Афіцэр ударыў Лапыра ў твар, а ён адказаў тым самым. Тады немец дастаў пісталет і мог бы стрэліць… Аднак, пачуўшы валтузню, у кабінет зайшоў шэф таго немца-афіцэра.

Шэф, паводле словаў спадара Уладыслава, быў "людскім чалавекам". Ён сказаў Лапыру: *"Табе гэтага не даруюць! Адна дарога – у канцлагер... Даю табе рэкамендацыйны ліст да свайго прыяцеля, які ёсць уласнікам маёнтка Granzkevitz на выспе Руге»*. І Лапыры паехалі… Так, у верасні 1943 года скончылася праца Баляслава Лапыра на карысць Беларусі.

На выспе Руге Баляслаў Лапыр працаваў у лабараторыі, якая прадуквала новыя гатункі збожжа. Цікава, што на гэтай выспе беларусы, украінцы і сербы не насілі ніякіх нашывак на адзенні і мелі тыя ж харчовыя карткі як і немцы, а вось палякі і расіяне мелі на шмат меншыя харчовыя карткі і насілі нашыўкі: палякі – "Р", а расіяне – "Ost".

У красавіку 1945 года выспу Руге занялі савецкія войскі. Людзей з абшараў Савецкага Саюзу пачалі дэпартаваць назад. Сям'я Лапыроў, як і сотні іншых, апынулася за калючым дротам у Ваўкавыску. Падчас аднаго з выклікаў на допыт Баляслаў Лапыр не вярнуўся. Ужо ніколі не вярнуўся. І лёс яго невядомы.

Жонка Баляслава Лапыра – Стэфанія Страшэвіч – вярнулася з дзецьмі ў Глыбокае, дзе, з вялікімі цяжкасцямі, перапісала дзяцей на сваё дзявочае прозвішча – Страшэвіч. Страшэвічы выехалі ў Гданьск на сталае жыхарства.

***

Уладыслаў Страшэвіч, сын Баляслава Лапыра, актыўны ўдзельнік беларускага таварыства ў Гданьску.

Ïàäçÿêà

# Беларусы – не абыякавічы



Фота Зм. Лупача

**Ада Райчонак**

Часта даводзіцца чуць, што беларусы – абыякавічы. Яшчэ іх называюць пафігістамі, кажучь, што ім усё да фені. Жыццё шматвекавое пад пятой старэйшага брата не прайшло бясследна, але яно не вынішчыла лепшыя рысы душы нашага чалавека. Гэта ведаю з дзіцячых гадоў, бо я выжыла ў час ваеннага ліхалецця толькі дзякуючы чалавечай дабрыні і спагадлівасці. І мне, напэўна, шчасціць у жыцці, што больш трапляецца на маім шляху добрых людзей.

Некалькі месяцаў назад я звярнулася праз сродкі масавай інфармацыі і папрасіла дапамагчы Лідзе Зялёнцы, якая трапіла ў цяжкія жыццёвыя абставіны.. Я спадзявалася на тое, што мяне ў Беларусі шмат хто ведае, і людзі не будуць абыякавымі да маёй просьбы. Так яно і сталася.

Ліда – чалавек цяжкога лёсу. І на дапамогу ёй прыйшлі людзі з розных куткоў Беларусі. Ёй слалі грошы, абутак, адзенне, нават дровы прывозілі, цацкі для маленькай Ульянкі…

Бачылі б вы, як радасна зіхацяць вочкі маленькай дзяўчынкі, калі яна гуляе са сваім цацачным багаццем, якога ў яе ніколі не было. Хутка Ульянцы споўніцца тры гадочкі, і толькі цяпер Ліда, дзякуючы людской падтрымцы, можа накарміць дачушку паўнавартаснай ежай. А калісьці малая ела бульбачку ў мундзірах… А яе маці ад безвыходнасці праходзілі ў галаву дурныя думкі. І толькі любоў да дачушкі ўтрымлівала яе ад граху.

Зараз у яе з'явілася шмат сяброў, якія падтрымалі яе не толькі матэрыяльна, але і маральна . Яны цікавяцца яе здароўем і здароўем Ульянкі, прапаноўваюць дапамогу ў лекаванні…

Так, Аляксандр Путаў з Віцебску тэлефануе і прапануе, каб жанчына пажыла ў яго, пакуль Ліда і Ульяна будуць праходзіць УЗІ і розныя аналізы. Стары добры адзінокі чалавек усім сэрцам пранікся Лідзінай бядой і стараецца ёй дапамагчы.І такіх людзей шмат, вельмі шмат. Са мной яна раіцца па ўсіх пытаннях як з маці. Расказвае мне, што ёй дасылаюць. І я кожны раз радуюся за яе. Зараз ужо гэта іншая Ліда. З'явіўся бляск у яе вачах. Здаецца і ростам яна стала вышэйшая.

Але бывалі выпадкі, калі яна плакала мне ў тэлефонную трубку. Людская зайздрасць – страшная рэч!.. Знаходзіліся людзі ў вёсцы, якія казалі ёй ў вочы: "А табе не сорамна атрымліваць усё ад незнаёмых людзей? А хто ты такая, што табе шлюць, а не нам?" Пужалі яе падатковай. Адна жанчына нават патэлефанавала рэдактару "Вольнага Глыбокага" і спыталася, як гэта зрабіць, каб Зялёнцы больш нічога не слалі. Абяцала прайсціся па вёсцы і сабраць подпісы ў сваю падтрымку. Я разумею, што можна папрасіць, каб дапамаглі. У маёй галаве ніяк не ўкладваецца тое, што можна прасіць, каб не дапамагалі. Вось гэтага я ніяк зразумець не магу, напэўна, мае жыццёвыя погляды састарэлі.

І ўсё ж такі, нягледзячы на такія з'явы ў нашым жыцці, я сцвярджаю: беларусы добрыя, шчырыя, спагадлівыя да чужой бяды людзі, а не абыякавічы, пафігісты і г.д. І вялікі вам дзякуй і нізкі паклон за тое, што вы мяне пачулі і дапамаглі Лідзе і Ульянцы, вярнулі ёй веру ў людзей.



Фота Зм. Лупача

# За 5 гадоў на Глыбоччыне канфіскавана 32 кіламетры браканьерскіх сетак

**Аляксей Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

– Галоўны рэсурс нашай дзяржавы, акрамя народа, мазгоў і рук, – гэта той дарунак, які нам паднесла прырода ў выглядзе расліннага і жывёльнага свету, – сказаў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. З мэтай захавання прыродных багаццяў краіны ў студзені 2003 года была створана Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь. На момант стварэння інспекцыі становішча з прыродакарыстаннем у рэспубліцы было вельмі напружаным, браканьеры розных масцяў нішчылі ўсё жывое, рабавалі лясы, азёры і рэкі, яшчэ б трохі - і нашым дзецям нічога б не засталося. Усе 10 мінулых гадоў супрацоўнікі інспекцыі актыўна змагаліся з браканьерствам, і сёння ўжо гэта праблема не стаіць так востра. У лясах з'явілася шмат рознай дзічыны, рэкі і азёры напаўняюцца рыбай, спынілася бескантрольная высечка лясоў. За апошніх 5 гадоў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на падкантрольнай тэрыторыі выяўлена 1517 правапарушэнняў, у браканьераў канфіскавана 665 штук рыбалоўных сетак, агульнай даўжынёй каля 32 км., 152 адзінкі іншых прылад браканьерства, 68 адзінак агнястрэльнай зброі, 28 з якіх не зарэгістраваных, 1758 кг. незаконна здабытай рыбы, 2640 кг. мяса дзікіх жывёл, 2324 м.куб незаконна высечанай драўніны. Для кагосьці можа гэта падацца і замала, але за лічбамі заўсёды стаіць велізарная праца людзей, якія не шкадуючы сваіх сіл, парой рызыкуючы жыццём, ахоўваюць прыроду.

Нават у свой маленькі 10-гадовы юбілей супрацоўнікі Глыбоцкай міжрайінспекцыі знаходзіліся на працоўным месцы. 27 студзеня пры правядзенні рэйдавых мерапрыемстваў у паляўнічых угоддзях раёна інспектарамі паблізу в. Чашкі затрыманы жыхар в. Івесь, які ажыццяўляў паляванне ў забароненым месцы, зброя ў грамадзяніна канфіскаваная, складзены адміністрацыйны пратакол. Парушальнік пры затрыманні паводзіў сябе



карэктна, а вось яго некаторыя сябры сталі пагражаць інспектарам сваім высокім заступніцтвам і скаргамі ў розныя інстанцыі. Але, хто мае рацыю, а хто вінаваты, разважыць раённы суд, а дзеяннем сяброў парушальніка будзе дадзена прававая адзнака.

Ахове і рацыянальнаму выкарыстанню прыродных багаццяў Беларусі будзе надавацца першарадная ўвага, гэта не толькі пытанні адпачынку, але гэта велізарны эканамічны рэсурс.

Супрацоўнікі міжрайінспекцыі спадзяюцца на дапамогу грамадзян у навядзенні парадку ў нашых лясах і на вадаёмах.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць у Глыбоцкую міжрайінспекцыю на тэлефон «гарачай лініі»: 8-02156-28670, маб. 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# Глыбоцкая УП ЖКГ – пераможца VII зімовай абласной галіновай Спартакіяды працаўнікоў жыллёва-камунальнай гаспадаркі Віцебскай вобласці




**Каманда УП ЖКГ Глыбоцкага раёна. Справа налева: Мікалай Атрахімовіч, Ларыса Волкава (старшыня абкама прафсаюзаў),Андрэй Ліша, Людміла Вашчонак, Алёна Булло,Наталля Тумчонак, Яўген Самсонаў, Аляксандр Холад, Віктар Каралькоў, Леанід Корнышаў.**

**Яўген Самсонаў**

**24 студзеня 2013 года ў Наваполацку, на базе спартыўнага комплексу " Атлант", праходзіла VII зімовая абласная галіновая Спартакіяда працаўнікоў жыллёва-камунальнай гаспадаркі Віцебскай вобласці.**

Раней, у 2010-м, упершыню прыняўшы ўдзел у спаборніцтвах, глыбачане толькі ўвайшлі ў дзясятку лепшых, а ў 2011-м і 2012-м годзе яны былі другімі. Сёлета каманда УП ЖКГ Глыбоцкага раёна ўпершыню ў гісторыі на вышэйзгаданай Спартакіядзе стала пераможцай.

Другое месца заваявала каманда "Докшыцыкамунальнік", а на трэцім месцы – гаспадары спаборніцтваў, чэмпіёны 2012 года, Наваполацкія камунальнікі. Каманды: УП ЖКГ Расонскага раёна, УП Полацквадаканал, УП ЖКГ Пастаўскага раёна, Наваполацквадаканал, УП ЖКГ Верхнядзвінскага раёна, УП ЖКГ Шумілінскага раёна, Ветрынскае ЖКГ, УП ЖКГ Мёрскага раёна, КУП ЖКГ г. Полацка, УП ЖКГ Лепель, Браслаўкамунальнік, і КУПП ЖКГ Бароўка падзялілі адпаведна з 4 па 15 месцы.

Узгадаю імёны спартыўных герояў УП ЖКГ Глыбоцкага раёна: лыжныя гонкі і эстафета ( 2 месца) : Леанід Корнышаў –1 месца ў асабістым заліку, Аляксей Януковіч – 3 месца, Людміла Вашчонак, Алёна Зелянкевіч; шашкі –1 месца ў камандным заліку: Яўген Самсонаў (1 месца) і Жанна Конан (1 месца); дартс – 4 месца: Аляксандр і Наталля Холад; настольны тэніс – 4 месца: Віктар Каралькоў і Алена Булло; шахматы – 8 месца: Андрэй Ліша і Наралля Тумчонак; більярд – 4 месца: Мікалай Атрахімовіч.



**На п'едэстале пераможцы: 1-е месца – Глыбокае, 2-е – Докшыцы, 3-е – Наваполацк.**

Пераможцы Л.Корнышаў, Я. Самсонаў і Ж. Конан будуць аспрэчваць свае права на ўдзел у рэспубліканскай зімовай галіновай Спартакіядзе працаўнікоў ЖКГ.

# Прынята рашэнне аб адстрэле сабак. Што трэба рабіць, каб не страціць свайго сабаку або котку?

**Тэма бадзяжных сабак вельмі актуальная для Глыбокага. І большасць бадзяжных сабак з'явілася ў нас не зусім коштам тых, якія адбіліся ад сваіх гаспадароў і пайшлі «на вольныя хлябы». Вялікая частка прывезеная іх гаспадарамі з вёсак, кінутыя ў раёне мясакамбіната, альбо адвезены на звалку смецця ў раён вёскі Сарокі, дзе ім, у якасці здабытка, можа патрапіць пратэрмінаваная еміна.**

**Ёсць меркаванне, што бадзяжныя сабакі больш спрытна арганізоўваюць паляўнічыя зграі, і здабываюць тых жа зайцоў больш вынікова, чым іхнія блізкія суродзічы ваўкі.**

**Не аднойчы нашыя чытачы тэлефанавалі ў «ВГ» і прасілі звярнуць увагу па тэме бадзяжных сабак. Апошні званок быў тыдні паўтара таму, калі наш чытач паведаміў, што ў раёне Глыбоцкай СШ №2 бадзячы сабака пакусаў школьніка.**

**А як вырашаецца праблема бадзяжных сабак у нашых суседзяў.**

**Дар'я Міхайлоўская**

Скаргі на тое, што на вуліцах гарадскога пасёлка разгульвае шмат бадзяжных сабак, часта паступаюць на УКП ЖКГ. У сувязі з гэтым у райвыканкаме было прынята рашэнне аб адстрэле безнаглядных сабак. Больш падрабязна пра гэта расказаў намеснік дырэктара УКП ЖКГ Васіль Іванавіч Някрасаў:

— Адлоў і адстрэл сабак праводзіцца для таго, каб папярэдзіць пакусы людзей і жывёл, захворванні шаленствам і іншымі заразнымі хваробамі. Згодна з Правіламі ўтрымання дамашніх сабак, кошак, а таксама адлову безнаглядных жывёл у населеных пунктах, адлоўленыя сабакі і кошкі, якія маюць рэгістрацыйныя жэтоны на ашыйніку, утрымліваюцца на працягу пяці сутак у спецыяльна адведзеных і абсталяваных месцах, адкуль гаспадары могуць забраць іх. Але ў выключных выпадках па рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў дазваляецца адстрэл безнаглядных жывёл.

У нас, у Шаркоўшчыне, адсутнічаюць спецыяльныя месцы, дзе мы маглі б утрымліваць адлоўленых сабак. Таму і было прынята рашэнне праводзіць адстрэл адразу. Звяртаецца ўвага на



наяўнасць ашыйніка з жэтонам, які выдаецца пры рэгістрацыі. Вядома, калі нашы работнікі бачаць, што сабака пародзістая, дагледжаная, то не будуць яе чапаць. Але ўсё роўна, як паказвае практыка, пасля адстрэлаў да нас паступае шмат скаргаў ад грамадзян.

У сувязі з гэтым хачу давесці да ведама жыхароў гарпасёлка графік адстрэлу безнаглядных жывёл на 2013 год. Адстрэлы будуць праводзіцца ў наступныя дні: 24 студзеня, 14 і 28 лютага, 14 і 28 сакавіка, 11 і 25 красавіка, 16 мая, 13 і 27 чэрвеня, 11 і 25 ліпеня, 8 жніўня, 12 і 26 верасня, 10 і 31 кастрычніка, 14 і 28 лістапада, 12 і 19 снежня. Таму, паважаныя шаркаўчане, калі вы не хочаце згубіць свайго любімца, не выпускайце яго ў гэтыя дні гуляць без нагляду. А ў ідэале, сабака павінен заўсёды знаходзіцца пад кантролем.

Згодна з Правіламі, выводзіць сабак у месцы агульнага карыстання можна толькі на кароткім павадку і ў наморднікі, выключэнне складаюць шчаняты ва ўзросце да трох месяцаў і дэкаратыўныя сабакі ростам да 25 сантыметраў. Увогуле, уладальнікі сабак і кошак павінны рэгістраваць сваіх выхаванцаў ва УКПЖКГ па адрасе вуліцы Камсамольская, дом 17 кабінет № 4, строга выконваць правілы і нормы іх утрымання, забяспечваць бяспеку людзей, на дапускаць забруджвання гэтымі жывёламі агульнадаступных месцаў. І памятаць пра тую адказнасць, якую бяруць на сябе, заводзячы сабаку, каб той потым не аказаўся на вуліцы і не закончыў жыццё ад кулі адстрэльшчыка.

***Крыніца:*** *Андрэй Бурэц, Кліч Радзімы*

